

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free W
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 478 Лістапад 2002 г.
Год выданьня 52


# НАША МОЦ - У ЯДНАНЬНІ

**Пра ўдзел беларусаў у выставах і канцэртах у аэрапортах Чыкага**

“Месячнік яднаньня" - так назвалі гэтую незвычайную ініцыятыву ў нашым горадзе Чыкагскі дэпартамэнт авіяцыі й Цэнтар узаемаабмену пры Чыкагскім Філд-музэі. Пачалася гэтая падзея сёлета адразу пасьля 11-га верасьня, пасьля сумнай першай гадавіны ад дня страшэннага тэрарыстычнага акту на нашай амэрыканскай зямлі. Арганізатары мерапрыемства імкнуліся падкрэсьліць неабходнасьць узмацніць у наш час духоўнасьць, адзінства людзей самых розных нацыянальнасьцяў і рэлігіяў, і перш за ўсё - людзей творчых, прадстаўнікоў мастацтва. Таму для ўдзелу ў "Месячніку яднаньня" былі запрошаныя творцы з розных краінаў сьвету і прадстаўнікі некаторых этнічных групаў горада Чыкага.

Вялікія залі й прасторныя пераходы ў чыкагскіх аэрапортах "О'Хара" і "Мідвэй" сталі на гэты час мастацкімі галерэямі й канцэтнымі пляцоўкамі. Экспанаваліся працы многіх мастакоў розных жанраў і майстраў мастацкай фатаграфіі. Сярод гэтых твораў вылучаліся карціны прадстаўніка нашых мясцовых беларусаў мастака Дзімітрыя Башка, сьвятара Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятога Юр'я. Зь ягонаю мастакоўскаю творчасьцю многія аматары жывапісу ў нашым горадзе пазнаёміліся падчас леташняй выставы "Зямля пад белымі крыламі", дзе экспанаваліся працы аўтараў, якія паходзяць зь Беларусі. У сваіх новых вельмі цікавых палотнах, напісаных акрылавымі фарбамі, - "Папараць-кветка", "Пегас", "Музыка начы", "Ноч. Месяц. Бура", "З музыкай", "Беларускія дзяўчаты", "Усяночная ў Княгіна" - Дзімітры Башко працягвае свае

*Працяг на бач. 2*




*Беларускі танцавальна-музычны моладзёвы ансамбаль "Лянок" з Чыкага.*

*Міхась ШВЭДЗЮК*

# ЯПІСКАПЫ Й СЬВЯТАРЫ
## ПОЛЬСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ
## Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ Й ПРЫ ПОЛЬСКІМ ВОЙСКУ НА ЗАХАДЗЕ

Падчас апошняе вайны й пасьля яе пасялілася ў Вялікай Брытаніі шмат беларусаў. Адныя прыехалі сюды разам з польскім войскам, пераважна пасьля выезду з СССР у 1942-43 гадох, а іншыя зь Нямеччыны на кантрактавыя працы, як так званыя "displaced persons" або "перамешчаныя асобы". Сярод гэтых людзей былі ня толькі праваслаўныя вернікі, але таксама япіскапы й сьвятары, якія падлягалі пад юрысдыкцыю Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (ПАПЦ). Варта тут успомніць, што паводле сьпісу насельніцтва Польшчы з 09.12.1931 году, у Польшчы было 3,8 мільёны праваслаўных, а гэта 11,9% ад усяго насельніцтва. У 1939-м годзе праваслаўных было прыблізна 4,2 мільёны. Беларусы складалі палову вернікаў ПАПЦ. Дык гісторыя ПАПЦ ёсьць нашай беларускай гісторыяй.



*19.01.1945 г. Ерусалім, Гефсіманія. Каля царквы Сьв. Марыі Магдалены група праваслаўных жаўнераў, пераважна беларусаў, у польскім войску. Пасярэдзіне а. Ўсевалад Яськоў.*

Галавою ПАПЦ на чужыне падчас вайны й некалькі гадоў пасьля яе быў япіскап Сава. Дзеля таго, што Польшча з камуністычным урадам па вайне апынулася ў сфэры ўплыву Савецкага Саюзу, сярод япіскапаў і сьвятароў ПАПЦ павінна было паўстаць пытаньне, да якой юрысдыкцыі яны павінны падлягаць, ці да Варшаўскага мітрапаліта, ці да якое іншае. Справа прыналежнасьці да Варшаўскага мітрапаліта сталася яшчэ і больш складанаю дзеля таго, што епархіі Горадзенская і Навагрàдзская (япіскапа Савы) і Віленская (япіскапа Мацьвея) апынуліся ў СССР пад юрысдыкцыяй Маскоўскага патрыярха.

Польскі экзыльны ўрад у Лёндане, напэўна, меў сваю апінію ў гэтай справе, але ня маючы доступу да архіваў вельмі цяжка сказаць, якім менавіта было стаўленьне да гэтага пытаньня польскага экзыльнага ўраду.

Таксама дакладна нявдома, да якое царкоўнае юрысдыкцыі падлягаў сьв. памяці япіскап Сава перад сваёю сьмерцю. Аўтару гэтага артыкула не ўдалося таксама ўстанавіць да якое юрысдыкцыі падлягаў сьв. памяці япіскап Мацьвей. Адныя кажуць, што ён належаў да ПАПЦ, а іншыя інфармуюць, што да Грэцкай Царквы. Асабіста я думаю, што ён належаў да Грэцкай Царквы.

Хоць у ПАПЦ у Вялікай Брытаніі былі два япіскапы й сьвятары, не пакінулі яны па сабе ніводнай собскай царквы. Сьвятыя літургіі адпраўлялі пераважна ў англіканскіх цэрквах. Некалі ПАПЦ мела свой собскі парафіяльны дом у Лёндане, у якім жылі кватаранты. Пасьля сьмерці япіскапа Мацьвея дом той прадалі.

У маіх артыкулах, надрукаваных раней у "Беларусе" і "Ніве", я трохі ўспамінаў пра япіскапа Мацьвея і сьвятара Ўсевалада Яськова, падрабязна апісаў жыцьцё а. Міхаіла Бажэр'янава ў Афрыцы.

**Япіскап Сава (Георгі Саветаў)**

Па паходжаньні япіскап Сава быў расейцам. У свой час быў

*Працяг на бач. 4*

# Весткі з Чыкага

## НАША МОЦ - У ЯДНАНЬНІ

*Працяг з бач. 1*

традыцыйныя жывапісныя матывы з пошукамі новых формаў кампазіцыйнай і колернай выразнасьці.

Па спэцыяльных раскладах у аэрапортах "О'Хара" і "Мідвэй" у вялікіх залях ішлі канцэрты, падчас якіх выступалі музычныя і танцавальныя ансамблі й гурты з Аўстрыі, Швэцыі, Японіі, Кітаю, Люксэмбургу, Швэйцарыі, Ірляндыі, Калюмбіі, Уругваю ды іншых краінаў. Але два асобныя дні ў аэрапорце "Мідвэй" былі прадугледжаныя для канцэртаў беларускага танцавальна-музычнага моладзёвага ансамблю "Лянок", створанага пры Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятога Юр'я. Абодва выступленьні ансмблю "Лянок" прайшлі зь велізарнейшым посьпехам. Дзеля гэтых канцэртаў амаль цалкам была абноўленая праграма; выконваліся традыцыйныя беларускія танцы, гучалі народныя песьні. Шматлікія гледачы вельмі цёпла віталі маладых удзельнікаў групы Аліну Ступакевіч, Марыю Башко, Кацярыну і Ірыну Камаровых, Ірыну Севасьцьянаву, Ганну Васіленка, а таксама кіраўнікоў гэтага вельмі адметнага і яскравага калектыву Алену Ступакевіч і Ірыну Башко.

"У адзінстве - наша моц", "Станем сапраўднымі сябрамі", "Наш горад - горад добрых суседзяў" - гэтыя заклікі часта гучалі ў размовах на выставах, са сцэнаў і ў залях канцэртаў у аэрапортах Чыкага. Гучалі як выраз імкненьня ўсіх людзей і ў Амэрыцы, і ў іншых краінах жыць у дружбе, сяброўстве, у міры, не дапускаючы духоўнай канфрантацыі, што асабліва неабходна зараз, пасьля трагічнага дня 11-га верасьня.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ*

*На здымках: карціны а. Дзімітрыя Бажка: "З музыкай", "Пегас", "Папараць-кветка".*







## СУСТРЭЧЫ З ШУШКЕВІЧАМ

Укaнцы верасьня ў Чыкага з караткачасовым візытам пабываў Станіслаў Шушкевіч - ведамы палітычны й грамадзкі дзеяч Беларусі, які сёньня ўзначальвае адну з буйнейшых у краіне апазыцыйных партыяў. У вялікай зале ОРТ-інстытуту, дзе звычайна зьбіраюцца эмігранты з краінаў былога СССР, адбылася гэтая сустрэча. "Ці стане Беларусь губэрняй Расеі?" - такая была тэма гэтай гутаркі.

Адбылася прэзэнтацыя новай кнігі Станіслава Шушкевіча, якая зусім нядаўна выйшла з друку, - "Нэакамунізм у Беларусі: ідэялёгія, практыка, перспектывы". Кнігу аўтар ня мог выдаць на Радзіме; яе надрукавалі ў Смаленску пры падтрымцы чыкагскага Фонду Джона й Кэтрын Макартураў. Асобныя разьдзелы гэтай вельмі цікавай і актуальнай працы ўпершыню друкаваліся сёлета ў чыкагскай расейскамоўнай газэце "Рэклама".

Станіслаў Шушкевіч быў госьцем вядомага беларускага сямейства Веры й Вітаўта Рамукоў, а таксама выступіў у новай расейскамоўнай праграме па адным з каналаў чыкагскага тэлебачаньня.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ*

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

У залі Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (401 Атлянтык Эвэню) 20-га кастрычніка адбыўся Беларускі Фэстываль. Адкрыў і вёў яго сп. Юрка Васілеўскі, які прывітаў прысутных ад імя парафіяльнай рады й выказаў спадзеў, што беларускія імпрэзы будуць прыцягваць больш і больш нашых суродзічаў. Затым з прывітальным словам выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, які распавёў прысутным пра гісторыю набыцьця будынку Сабору, пра ягонага першага настаяцеля а. Хведара Данілюка і падзяліўся ўспамінамі пра беларускае жыцьцё ў Брукліне ў 1950-я гады.

Затым адбыўся канцэрт сьпевакоў і музыкаў Ліды Кано, Тацьцяны Дзямешчык, Рымы Пракопчык. Прысутныя з задавальненьнем паслухалі папулярныя беларускія песьні й мэлёдыі.

У залі можна было пакаштаваць беларускія нацыянальныя стравы - дранікі, калдуны, мачанку ды інш., падрыхтаваныя стараньнем сп-ва Зоі й Міколы Вашкевічаў.

Экспанавалася выстава працаў фотамастака Алеся Крыштаповіча, выстава рэпрадукцыяў беларускіх краявідаў Напалеона Орды, архітэктурных помнікаў Беларусі й фотаздымкаў з гісторыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, падрыхтаваная сп. Сяргеем Капыткам. Прысутныя маглі таксама агледзець калекцыі беларускіх паштовых марак сп. сп. Юркі Касьцюкевіча і Кастуся Вераб'я, а таксама калекцыю беларускай керамікі сп. Ю. Касьцюкевіча.

Напрыканцы імпрэзы быў прасьпяваны беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа".

*Віталь ЗАЙКА*

## ВІЗЫТ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫКАЎ У ВАШЫНГТОН

Група беларускіх палітыкаў і актывістаў няўрадавых арганізацыяў, у якую ўваходзяць старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка і старшыня выканкаму Аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі Кароль, на запрашэньне Дзяржэпартамэнту знаходзяцца ў ЗША з мэтаю вывучыць выбарчую сытуацыю. У Вашынгтоне яны сустрэліся з намесьнікам памочніка дзяржсакратара Стывенам Пайфэрам (Stiven Pajfer), на сустрэчы палітыкі абмеркавалі сытуацыю ў Беларусі, у тым ліку з КНГ АБСЭ і беларуска-расейскія дачыненьні. Таксама адбылася сустрэча ў Гэльсінскай камісіі Кангрэсу й спатканьні ў шматлікіх інстытутах і арганізацыях.

*Прэс-служба партыі БНФ*

## ПАМАГАЮЦЬ, ЯК КАШАЛЬ ХВАРОБЕ...

Магчыма, вы чулі, што больш сотні "выдатных канадыйцаў" выступілі ў абарону іракскага дыктатара Садама Гусэйна, якога мілітарнаю сілаю хочуць зьнішчыць амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш і брытанскі прэм'ер-міністар Тоні Блэйр.

Пра гэта паведаміла таронцкая газэта "Торонто Сан" 26-га верасьня. Тэмаю Гусэйна, які ня хоча выканаць пастановы Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў - пазбыцца сваёй зброі "масавага зьнішчэньня" (атрутных газаў й розных вірусаў, атамная зброя), цяпер займаецца сусьветная прэса, палітыкі, уплывовыя людзі й перад усім тыя дзяржавы, якія намагаюцца стрымаць "здурэлага дыктатара", што раней газамі вынішчыў тысячы курдаў і іранцаў.

Грамада канадыйцаў - гэта палітычна левыя артысты, ітэлектуалы, пісьменьнікі, рэлігійныя лідэры й актывісты. Яны-ж - тыя самыя тыпы (найчасьцей тыя самыя людзі), што некалі гадамі заядла даказвалі, быццам заходні вольны дэмакратычны сьвет няправільна разумее "добры й прагрэсыўны камунізм".

Цяпер-жа такія як Маргарэт Атвуд, Лінда Магквэйг, П'ер Бэртан, сэнатар Дог Рошэ, Давід Сузукі і Брус Кокбурн цьвердзяць у сваім супольным асьветчаньні, што "няма пераканальных доказаў, што Ірак мае ці пляноўмець і ўжываць зброю "масавага зьнішчэньня" небясьпечную для цэлага сьвету. "Дваццаць гадоў назад Ізраіль разбамбіў іракцкі атамны рэактар, спыніўшы прадукцыю атамнай зброі".

Гэтая група канадыйцаў, якая змагаецца "за мір", якую чуе ўплывовая левая сацыялістычная верхавіна, мае вялікі розгалас у дзяржаве. Між ёю - колішнія марксысты. Прэса і ТВ дае ім голас.

Пра Беларусь і ейнага дыктатара яны маўчаць. Найлепш, каб бізнэс з Маскоўшчынаю квітнеў.

*К. АКУЛА*

## ІЛЮЗЫІ ДЭМАКРАТЫІ

Чаму заходнія дэмакратыі думаюць, што яны могуць перамагчы сваіх таталітарных ворагаў з дапамогаю палітыкі саступак? Чаму вераць, што ў крытычны момант іхная усьмешка пераможа ворагаў?

Гістарычны вопыт нам падказвае адваротнае. У 1930-х гадох кіраўнікі Ангельшчыны й Францыі верылі ў тое, што анэксія Чэхаславаччыны зможа задаволіць дыктатарскую агрэсыўнасьць Гітлера. У 1970-я гады амэрыканскія прэзыдэнты думалі, што загульваньне з Брэжневым зробіць магчымым пабудову амэрыкана-савецкага міру. Тое самае было ў 1990-х гадох у Ізраілі, дзе "мірныя перамовы" абяцалі так шмат.

Кожная з гэтых памылак дыпляматыі пашкодзілі інтарэсам дэмакратычных дзяржаваў. У 30-х гадох патураньне Гітлеру выклікала пазьней Другую сусьветную вайну. Гульні з Брэжневым спрыялі ўмацаваньню савецкай вайсковай сілы й падмацоўвалі авантурызм Крамля, пікам якога стала ўварваньне ў Аўганістан. Перамовы на Бліжнім Усходзе сталі для палестынцаў пацьверджаньнем слабасьці Ізраіля і прывялі да хвалі выбухаў, зьдзейсьненых самазабойцамі, і другага насільля.

Цяпер гэтым-жа шляхам спрабуе ісьці Паўднёвая Карэя, якая з 1997-га году праводзіць падобную палітыку ў адносінах з Паўночнай Карэяй, якая, можа за выключэньнем гусэйнаўскага Іраку, ня мае сабе роўных у сьвеце па рэпрэсіях супраць сваіх грамадзянаў і агрэсыўнасьці супраць суседзяў.

У адносінах да драбнейшых і не такіх "праблемных" дыктатараў палітыка яшчэ менш рашучая, асабліва, калі не закранаюцца наўпрост інтарэсы моцных дзяржаваў, якія ўплываюць на фармаваньне міжнароднай палітыкі. Ня гледзячы на шмат крытыкі, беларускі ўзурпатар улады й фальсыфікатар выбараў і рэфэрэндумаў "прэзыдэнт" Лукашэнка пачуваецца адносна спакойна, бо эўрапейскія ды амэрыканскія дэмакраты працягваюць шукаюць шляхоў ачалавечыць ды легітымізаваць ягоны рэжым, зьнімаючы такім чынам гэтае пытаньне. Акт аб дэмакратыі ў Беларусі-2002 ўжо доўга чакае свайго прыняцьця ў Кангрэсе ЗША. Як доўга яшчэ?

Па гэтых-жа прычынах столькі разнагалосьсяў выклікаў заклік прэзыдэнта ЗША раз і назаўсёды вырашыць пытаньне з Садамам Гусэйнам. Праціўнікаў рашучых дзеяньняў шмат. І гэта вяртае нас да першага пытаньня. Чаму дэмакраты суцяшаюць сябе думкамі, што да перамогі над ворагамі вядуць усьмешкі, дабрата і добры прыклад? Выглядае, што асноўных прычынаў некалькі:

- нявдольнасьць правільна ўявіць зло: грамадзяне дэмакратычных краінаў не дапускаюць думкі, што варожы бок можа моцна адрозьніцца ад іх;
- стомленасьць: бясконцая пільнасьць вымушае бачыць жадаемае там, дзе яго няма;
- самаабвінавачваньне: тэндэнцыя лічыць сябе тою прычынаю, якая выклікае нянавісьць ворагаў.

Ведаючы ўрокі гісторыі даводзіцца толькі зьдзіўляцца, назіраючы за падзеямі ў сьвеце.

*Я. ЗАБАЛІНСКІ*

# Беларусь за месяц

## ІВАШКЕВІЧ НЕ ЗДАЕЦЦА

Пасьля таго, як асудзілі Віктара Івашкевіча на два гады за паклёп на адрас прэзыдэнта, ягоная адвакатка Тацьцяна Станкевіч падала касацыйную скаргу ў Менскі гарадзкі суд. Аднак дарэмна. Суд пакінуў вырак бязь зьменаў. Галоўным крытэрам было тое, што злашчасны артыкул "Злодзей мусіць сядзець у турме", насамрэч быў надрукаваны ў газэце! Ніякія довады, што артыкул быў узяты з інтэрнэту (то бок перадрукаваны, а значыць трэба шукаць аўтараў сеціўнага артыкула), не падзейнічалі. Цяпер спадзевы толькі на амністыю, якая павінна зьменшыць прысуд. Тады галоўны рэдактар газэты "Рабочы" будзе працаваць на "хіміі" адзін год.

Сам Віктар Івашкевіч дастаткова аптымістычна глядзіць у будучыню: "Я буду імкнуцца, каб газэта выходзіла і надалей. Нават калі мяне пашлюць куды ў Баранавічы, Воршу, Берасьце - гэта ўсяго толькі чатыры гадзіны на самаходзе. Мы-ж не ў Саюзе, у Сыбір ня вышлюць".

## АД "МФ" ЗЬ ЛЮБОЎЮ

7-га кастрычніка расейскі прэзыдэнт Уладзімер Пуцін сьвяткаваў 50-годзьдзе. Усё "прагрэсыўнае чалавецтва" віншавала яго ў гэты дзень. Вырашыў не адстаць і "Малады Фронт". 7-га кастрычніка на рэклямных шчытах найбуйнейшых расейскіх фірмаў у Менску зьявіліся бел-чырвона-белыя сьцягі. Шыльды вуліц "Камуністычная", "Рэвалюцыйная", "Савецкая" былі перакрэсьленыя, а на іх зьявіліся напісаныя ад рукі гістарычныя назовы.

Апрача таго, некалькі актывістаў "Маладога Фронту" прынесьлі да расейскай амбасады падарункі: стары чамадан (меўся на ўвазе стары апазыцыйны слоган "Чамадан. Вакзал. Расія"), пляшку гарэлкі "Маскоўская" ды ліст, дзе адзначалася, "што для беларускага народу ідэя інтэграцыі не прымальная, і Беларусь хоча быць вольнай і незалежнай".

Міліцыянты-ахоўнікі й супрацоўнікі пасольства браць падарункі адмовіліся. Кажуць, дасылайце поштай.

## СТРАЙК ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

З 1-га кастрычніка прадпрымальнікі не працавалі. Тыя, хто вылучаў палітычныя патрабаваньні, страйкавалі. Іх узначальваў кіраўнік страйкаму Валер Леванеўскі. Тыя, хто вылучаў эканамічныя, баставалі. Іх ачольваў кіраўнік Аб'еднанага савета прадпрымальнікаў Анатоль Шумчанка. Галоўнае патрабаваньне і першых, і другіх - адмена загаду пра касавыя падсумоўныя апараты, безь якіх, дарэчы, нельга ўявіць нават самага занядбанага прадпрымальніка-гандляра на Захадзе. Запалу і першых, і другіх хапіла на лічаныя дні, хоць абяцаліся баставаць-страйкаваць зь месяц. З кожным днём прадпрымальнікаў-забастоўшчыкаў станавілася ўсе меней. А 10-га кастрычніка вырашылі забастоўку-страйк спыніць.

У Горадні прадпрымальнікі сабраліся на плошчы Леніна на мітынг (каля 200 чалавек). Яны патрабавалі сустрэчы з гарадзкімі ўладамі. Кіраўнікі гораду адмовіліся выйсьці да людзей. Старшыня страйкаму Валер Леванеўскі быў затрыманы міліцыяй, і празь некаторы час асуджаны на 15 сутак адміністацыйнага арышту. У спецпрыёмніку ён абвесьціў галадоўку.

## МІТЫНГ ПАМЯЦІ

26-га кастрычніка ў Менску адбыўся мітынг памяці менскіх падпольшчыкаў, закатаваных нацыстамі 26-га кастрычніка 1941-га году. 61 год таму на прахадной менскага дражджавога завода былі павешаныя тры менскія падпольшчыкі: Канстанцін Трус, Уладзімер Шчарбацэвіч і Маша Брускіна. Гэта акцыя стала першым публічным пакараньнем сьмерцю ў акупаваным немцамі Менску.

Арганізатарам сёлетняй акцыі-рэквіему быў Саюз беларускіх яўрэйскіх грамадзкіх аб'еднаньняў і абшчын. Адметна, што сярод удзельнікаў акцыі быў і "Малады фронт". Лідэр МФ Павел Севярынец заявіў на мітынгу, што абавязак маладых людзей, якія сёньня адстойваюць незалежнасьць Беларусі, - шанаваць памяць антыфашыстаў, якія змагаліся супраць нацыстаў у гады Другой сусьветнай вайны.

Вось тут і ўзьнікаюць "падвойныя стандарты". З аднаго боку маладафронтаўцы шануюць памяць дзеячоў нацыянальнага руху часоў нямецкай акупацыі, а зь іншага прапануюць шанаваць памяць падпольшчыкаў, якія мэтадычна вынішчалі дзеячоў-беларусаў.

## ЛЯБЕДЗЬКА АДСТУПАЕ

"Беларус" паведамляў, што 17-га лістапада мае адбыцца акцыя аб'еднанай апазыцыі ў абарону незалежнасьці й суверэнітэту краіны. (Збор на плошчы Якуба Коласа а 12-й гадзіне). Між тым, апазыцыянеры пачынаюць пакрысе адмаўляцца ад раней абвесьленых супольных дзеяньняў. Адмовіліся ад удзелу ў акцыі лібэрал-дэмакраты, камуністы.

Вось і лідэр АГП Лябедзька заявіў пра сыход сваёй партыі зь ліку арганізатараў акцыі. Ён аргумэнтуе свае рашэньне непадрыхтаванасьцю арганізатараў і апатыяй грамадзтва, прагназуючы, што ўдзельнікаў ня будзе больш за 5 тыс. А гэта значна падарве імідж незалежнай Беларусі ў вольным сьвеце з аднаго боку, а з другога - сыграе на руку Лукашэнку. Нацыянал-патрыятычна настроеныя дзеячы апазыцыі ўжо назвалі Лябедзьку і АГП абструкцыяю.

## ВАКОЛ КУРАПАТАЎ

Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" вырашыла зарганізаваць Рэспубліканскую камісію па стварэньні на ўрочышчы народнага мэмарыялу. Плянуецца правесьці збор сродкаў і абвесьціць конкурс на пабудову помніка.

Да сёньняшніх Дзядоў мастак Аляксей Марачкін намаляваў абраз Маці Божай Курапацкай ўсіх нявінна расстраляных. Абраз, праўда, некананічны. Смуткуючая Маці Божая, якая адлюстраваная на фоне курапацкіх крыжоў і стромкіх соснаў, трымае ў руках беларускі ручнік. Гэты абраз пранясуць да Курапатаў і там урачыста асьвецяць. Ягоны арыгінал, магчыма, будзе падораны ўніятам, бо абраз напісаны ў жанры старажытнага ўніяцкага іканапісу, а яго паменшаная копія зьмешчаная пад крыж-капліцу ў Курапацкім лесе.

Цікава, што як і ў мінулым годзе, сёлета будуць адзначыць двое Дзядоў. 2-га лістапада на плошчы Талбухіна будуць зьбірацца сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, а ля мэтро "Усход" - сябры Партыі БНФ.

## АКЦЫЯ "МАЛАДОГА ФРОНТУ"

23-га кастрычніка беларускія праваахоўныя органы дэпартавалі з Беларусі лідэра расейскай партыі "Саюз правых сілаў" Барыса Нямцова, паставіўшы яму ў віну небясьпеку для дзяржаўных інтарэсаў. Нямцоў і ягоная паплечніца Ірына Хакамада меліся ўзяць удзел у навуковай канфэрэнцыі "Беларусь - Расія: Новая інтэграцыя?" Маршрут Нямцова абмежаваўся праездам ад аэрапорту "Мінск-2" да аэрапорту "Мінск-1" і вяртаньнем у Маскву.

Натуральна, сябры "Маладога Фронту" ня ведалі пра акцыю беларускіх спэцслужбаў. І таму вырашылі зладзіць акцыю ў падтрымку суверэнітэту. Яны, як і сябры Беларускай Партыі Свабоды пікетавалі будынак Менскага міжнароднага адукацыйнага цэнтру. Удзельнікі акцыі (блізу 30 чалавек) трымалі бел-чырвона-белыя і чорна-белыя сьцягі, а таксама плякаты "Ніякіх саюзаў з Расеяй!", "Рукі прэч ад Беларусі!", "Беларускі народ - гаспадар сваёй краіны!". Расейскія машыны яны закідалі тухлымі яйкамі. Маладзёны наладзілі збор грошай на квіток Анатолю Лябедзьку, ініцыятару канфэрэнцыі, да Масквы ў адзін канец. Маладафронтаўцы таксама апытвалі выпадковых мінакоў наконт ўвядзеньня беларускага рубля як адзінай валюты Саюзу Беларусі й Расеі.

Акцыя "МФ" і БПС зацікавіла лукашэнкаўскае тэлебачаньне, і апошнія нават ўзялі інтэрв'ю ў Паўла Севярынца і лідэра БПС Сяржука Высоцкага. Праўда, па тэлевізіі не паказалі, як іх арыштоўвалі. Праз тыдзень прайшлі суды. Паўла аштрафавалі на 900 даляраў. Сяржука адпусьцілі, бо ён меў журналісцкае пасьведчаньне. Маладафронтаўцам Сяргею Мацкойцю і Алене Лазарчык далі 22 тыс. рублёў штрафу (115 даляраў), сябру БПС Ільлю Ядранцава асудзілі на 3 сутак.

## АКЦЫЯ АКСАНЫ НОВІКАВАЙ

29-гадовая прыватная прадпрымальніца Аксана Новікава была затрыманая 17-га кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы ў Менску, у час, калі раздавала антыпрэзыдэнцкія ўлёткі (Лукашэнка абвінавачваўся ў зьдзяйсьненьні некалькіх злачынстваў). Новікаву пратрымалі ноч у ізалятары й адпусцілі пад падпіску аб нявыезьдзе. Ёй пагражае абмежаваньне альбо пазбаўленьне волі тэрмінам да 5 гадоў. Сьледчыя абяцаюць скончыць разгляд справы менш, чым за паўтара месяцы.

## ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ

У сярэдзіне кастрычніка Курапаты наведаў Першаярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы (БАПНЦ) Юры (Эмігідзіюш) Рыжы, дзе адпраўляе набажэнствы сьвятар БАПНЦ Леанід Акаловіч. А Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква тым часам падае дакумэнты на рэгістрацыю. Падаюць дакумэнты суполкі БАПЦ у Бераставіцы, Горадні, Сьвіслачы.

## МУЗЭЙ ЛУЦКЕВІЧА Ў ВІЛЬНІ

Сойм Летувы прыняў рашэньне аб аднаўленьні музэя імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Цяпер засталося вярнуць туды экспанаты, якія былі параскіданыя па Гісторыка-этнаграфічным музэі й Цэнтральнай бібліятэцы АН Летувы.

## ВЕК ТАК НЯ БУДЗЕ

У Менску была прэзэнтаваная кніга ўспамінаў Надзеі Дземідовіч "Век так ня будзе". Сп-ня Надзея (нар. 1927 г.) вырасла ў Заходняй Беларусі, вучылася пад немцамі ў беларускай школцы, брала ўдзел у СБМ, за што і была асуджаная ў 1950-м годзе савецкім судом на 25 гадоў зьняволеньня. Савецкія лягеры не зламалі мужную жанчыну, а яшчэ болей загартавалі яе нацыянальны дух. На прэзэнтацыі яна сказала, што хоча толькі аднаго - "пабачыць Беларусь вольнай".

## ВЯРТАНЬНЕ 10-ці КАЛАСКОЎ

Сьветлагорскі суд аштрафаваў пэнсіянэра-інваліда зь вёскі Якімава Слабада Лявона Рабцава на 34 тыс. рублёў (гэта прыкладна 18 амэрыканскіх даляраў і палова пэнсіі чалавека) за тое, што ён зьбіраў моркву на перагараным калгасным палетку. На судзе Рабцаў разгублена казаў, што ён ня думаў, што камусьці спатрэбіцца парэзаная калгасным трактарам морква. Цікава, што маці Рабцава была ў 1937-м годзе кінутая ў турму за славутыя сталінскія "дзесяць каласкоў".

***Уласны карэспандэнт***

---

**THE FEDERAL COUNCIL OF BELARUSIAN ORGANISATIONS IN AUSTRALIA**
**ФЭДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ**

*President:* Eugene Hrusza
55 Marion Street
Ahona North, 3025
Vic. Australia
Tel/Fax: 03 93944620

*Secretary-Treasurer:* Paul Huz
Tel: 03 93247468



*Vice Presidents:*
VIC Alex Shnek, Tel: 03 95870936
NSW Michael Tichon, Tel: 02 95594142
SA Victor Kovalevski, Tel: 08 84478505
WA Alex Moroz, Tel: 08 92744858

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Ад імя сяброў ВК ФРБА ў Аўстраліі й асабіста свайго вітаю Вас із 82-мі ўгодкамі Слуцкага Збройнага Чыну, перасылаю нашыя ўрачыстыя віншаваньні й пажаданьні.

Дзень 27-га лістапада 1920-га году сьвяткуецца беларусамі па ўсім вольным сьвеце, дзе іх толькі не закінула ваеннае ліхалецьце, праводзяцца акадэміі, адпраўляюцца Божыя службы, пяюцца патрыятычныя песьні.

Сёньня і на роднай Бацькаўшчыне патрыёты-змагары, якім дарагая Маці-Беларусь, разам зь беларусамі ў вольным сьвеце горда шануюць сваіх патрыётаў сыноў Случчыны.

Не судзіў Бог Беларускаму Народу доўга цешыцца абвешчанаю незалежнасьцю. З усходу і захаду варожыя з прадвеку суседзі паняволілі й падзялілі Беларусь паміж сабою ганебнаю дамоваю ў 1921-м годзе.

Аднак паходні незалежнасьці, запаленыя на І-м Усебеларускім Кангрэсе, не пагасьлі. Іх сьвятло падтрымалі змагары Слуцкага Паўстаньня і з гонарам данесьлі да 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу 27-га чэрвеня 1944-га году. Пад бел-чырвона-белым сьцягам беларуская палітычная эміграцыя павінна працягваць змаганьне за вольную Маці-Беларусь на палітычнай арэне, усьведамляючы іншыя дзяржавы аб прыгнёце беларускага народу.

Хоць сёньня Беларускі Народ, жывучы ў так званай Рэспубліцы Беларусь, ня можа сьвяткаваць нацыянальных сьвятаў, дзякуючы хрыстапрадаўцам рознай масьці ў галаве з прэзыдэнтам, якія падмянілі беларускую мову расейскай, зганьбілі слаўную Пагоню і родны Сьцяг, узяўшы зноў каляніяльны, які не заслугоўвае на пашану Беларускага Народу.

Сам прэзыдэнт насьміхаецца з усяго роднага, што так дорага Народу. І цяпер, болей як калі, мы павінны сканцэнтраваць свае духовыя сілы й змагарнасьць, каб дапамагаць барацьбітам за вольнасьць Беларусі.

Вось гэтай духовай сілы й мудрасьці жадаем мы вам і сабе.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! Жыве Беларускі Народ у змаганьні!

***Паўлюк ДУБРОЎСКІ-ГУЗ***

---

# НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ




У Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Бібліяграфічнай сэрыі выйшаў чарговы том - ***"Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі"***. Укладальнікі - дырэктар БІНІМ доктар Вітаўт Кіпель і навуковы супрацоўнік Зьміцер Саўка, які далучыўся да праекту ў 1997-м годзе і быў запрошаны дзеля гэтага на адмысловую стыпэндыю.

Выданьне падобнага даведніка ажыццёўленае ўпершыню, а праца над ім працягвалася амаль паўстагодзьдзя.

Даведнік складаецца зь двух частак - каталягічнай (у трох каталёгах сабраныя зьвесткі пра беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі ад часоў Лаўрэнція Зізанія да сёлетніх выданьняў і публікацыяў, а таксама інфармацыя пра рукапісныя і электронныя слоўнікі й картатэкі) і індэксавай (яна дае магчымасьць шукаць матэрыял паводле моваў, тэмаў, гадоў і месцаў выданьня, па тыпах слоўнікаў, па асобах і мясцінах).

*Працяг з бач. 1*

ён афіцэрам царскага войска. Пасьля грамадзянскай вайны апынуўся ў Югаславіі, дзе вучыўся ў духоўных установах. Ужо як духоўная асоба прыехаў ён у Польшчу ў дваццатыя гады мінулага стагодзьдзя. Быў япіскапам Гарадзенскім і Навагарадзкім аж да вайны ў 1939-м годзе. Варта тут успомніць, што япіскап Сава ня быў адзіным сьвятаром, якога палякі запрасілі прыехаць у Польшчу. Так, з Рыму быў запрошаны япіскап Георгі Ярашэўскі, дзе ён жыў са сваім сябрам князем Шэвалавым (колішнім галоўным пракуратарам Сьвяцейшага Сыноду ў Маскве і сябрам Распуціна). Япіскап Георгі (потым архіяпіскап, мітрапаліт) быў прыхільнікам стварэньня аўтакефаліі ў Польшчы. Загінуў ён вельмі трагічнай *наш смутак перад вышэйшаю ўладаю хрысьціянскай Польшчы, што такая страшная несправядлівасьць з патаптаньнем Хрыстовай праўды й любові сталася нам - хрысьціянам у хрысьціянскай дзяржаве."*

Чаму такія зьдзекі над праваслаўнаю царквою рабіліся ў Польшчы ў 1938-м годзе? Можа дзеля таго, што быў гэта юбілейны год - 950-годзьдзе хрышчэньня Русі, і палякі хацелі па-свойму паказаць праваслаўным, што яны думаюць аб гэтым юбілеі. А можа хацелі, каб збыліся словы верша: *"...Wiwat nasza przyjazn stara - Polak, Rusin jedna wiara..."* (Няхай жыве нашае старое сяброўства - паляк, русін аднае веры.) Ня трэба тут удакладняць, аб якой *"адной веры"* ідзе тут гаворка, не аб праваслаўнай.

*ным з кананічных поглядаў..."* Тут усё ясна, але словы *"гэта астатняе не перасуджвае справы аўтакефаліі..."* патрабуюць паясьненьня.

Справа ў тым, што паводле праваслаўных конанаў, каб стварыць аўтакефалію, трэба мець згоду Маці-Царквы. А для праваслаўных вернікаў, якія апынуліся ў Польшчы паводле Рыскай дамовы 1921-га году, Маці-Царквою была Руская Праваслаўная Царква. Аб гэтым добра ведала ня толькі новапаўсталая царкоўная гіерархія ў Польшчы, але і польскі ўрад. Дзеля гэтага праваслаўныя япіскапы й польскі ўрад зьвярнуліся да маскоўскага пратрыярха Ціхана з просьбаю аб ягонай згодзе на залажэньне аўтакефаліі ў Польшчы. Патрыярх Ціхан пагаджаўся на вялікую аўтаномію, але на поўную успомню, што адзін польскі гісторык у Ангельшчыне (З. С. С-ко) падазрае, што прычынаю для неўспамінаньня Мітрапаліта Дзіянісія падчас літургіяў было тое, што падчас нямецкай акупацыі ён харатанізаваў у япіскапы двох украінскіх сьвятароў без папярэдняй згоды польскага ўраду да чаго ён (Дзіянісій) быў забавязаны дакрэтам польскага ўраду ад 1938-га году. Зьвярніце ўвагу, што мітрапаліт ПАПЦ ня меў права харатанізаваць сьвятароў у япіскапы без дазволу сьвецкіх людзей, у гэтым выпадку польскага ўраду!!!

Аўтар гэтага артыкула спатыкаўся і гутарыў зь япіскапам Саваю ў Палестыне і ў Ангельшчыне. Зрабіў ён тады добрае ўражаньне.

Па вайне япіскап Сава жыў у Лёндане, адпраўляў Божыя лі-

У 1942-43-м гадох прыехала ў Палестыну з СССР з польскім войскам шмат праваслаўных жаўнераў і некалькі сьвятароў. Айцец Іоан быў прызначаны галоўным капэлянам на Бліжнім Усходзе. З польскім войскам пад камандаваньнем генэрала Андэрса выяхаў ён у Італію. Там захварэў і вярнуўся назад у Палестыну.

У Палестыне пасяліўся ў грэцкім манастыры ў Сьвятым Горадзе Ерусаліме. Часам браў удзел у служэньні Сьвятой літургіі ў расейскай праваслаўнай царкве Сьв. Марыі Магдалены ў Гефсіманіі. У Ерусаліме я часта зь ім сустракаўся і гутарыў.

Па вайне айцец Іоан прыехаў у Ангельшчыну, дзе палучыўся з жонкаю і дачкою, якія прыехалі зь Нямеччыны. Пасяліўся ў Лён-

# ЯПІСКАПЫ Й СЬВЯТАРЫ ПАПЦ

## Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ Й ПРЫ ПОЛЬСКІМ ВОЙСКУ НА ЗАХАДЗЕ

сьмерцю, 27.02.23 яго застрэліў фанатык архімандрыт Смарагд.

Сьцягваньне з-за мяжы ў Польшчу праваслаўных япіскапаў (расейскага паходжаньня!) было заплянаванае польскім урадам. Хадзіла аб тым, каб новастворaная царкоўная гіерархія была прапольская, выконвала дэкрэты польскага ўраду і дамаглася ў Маскоўскага патрыярха дазволу на залажэньне аўтакефаліі ў Польшчы. Хадзіла, напэўна, і аб тым, каб царкоўныя ўлады не былі нацыянальна навязаныя са сваімі вернікамі, беларусамі й украінцамі.

Праваслаўныя япіскапы, якія не пагаджаліся з палітыкаю польскага ўраду адносна праваслаўнае царквы былі альбо перасяледаваныя (япіскап Гарадні й Пінска), альбо выдалены з Польшчы (япіскап Уладзімер), альбо пераведзеныя ў манастыр (япіскап Панцеляймон Ражноўскі да Жыровіч)...

Да вайны палякі вялі моцную палянізацыю праваслаўнае царквы. Хацелі ўвесьці польскую мову ў літургіі й казаньнях. Дзеля гэтага ўжо нават надрукавалі *"літургіконы"* ў полькай мове. У гэтай палянізацыйнай акцыі праваслаўнай царквы напярэдзе была Гарадзеншчына. Ня ведаем, якое было стаўленьне япіскапа Гарадзенскага і Навагарадзкага Савы да гэтай сумнай і прыкрай справы. Але можна падазраваць, што ён быў супраць палітыкі полькага ўраду і рыма-каталіцкага касьцёлу. Довадам гэтага няхай будзе тое, што япіскап Сава быў адным зь сямі падпісчыкаў (мітрапаліт, тры архіяпіскапы й тры япіскапы) мэмарандуму-пратэсту ад 16.06.1938 году да польскага ўраду аб антыхрысьціянскіх акцыях супраць праваслаўных вернікаў і праваслаўнай царквы на Холмшчыне. Мэмарандум пачынаўся так: *"Страшныя падзеі, што сталіся апошнім часам у Люблінскім ваяводзтве, напоўнілі страхам усіх праваслаўных вернікаў у Польшчы. За кароткі час зьнішчана больш за 100 праваслаўных цэркваў, частка якіх існавала яшчэ ад часоў польскіх каралёў..."* і г. д. А заканчваўся мэмарандум так: *"І мы выказваем тут той горкі*



*07.01.1946 г. Ерусалім, Гефсіманія. Перад царквою Сьв. Марыі Магдалены. У другім радзе першы зьлева (за чалавекам у белым плашчы) Міхась Шведзюк.*

Пасьля гэтага адступленьня вернемся да апавяданьня пра япіскапа Саву. Калі пачалася вайна, ён быў за мяжою. Потым прыехаў у Вялікую Брытанію, і быў прызначаны на вайсковага япіскапа - капэляна Польскага войска замяжою ў ранзе генэрала.

Акрамя праваслаўных жаўнераў у Польскім войску ў Вялікай Брытаніі й на Блізкім Усходзе (Палестына, Ліван) было шмат праваслаўных у частках Польскага войска, створаных у СССР. Былі там (у СССР) і сьвятары, як, напрыклад, айцец Курылас зь Львова. Далейшы лёс ягоны нам, на жаль, невядомы.

Сярод праваслаўных сьвятароў ПАПЦ пры Польскім войску ў СССР паўстала кананічнае пытаньне: ці падчас Божых служэбаў успамінаць маскоўскага патрыярха Сяргея і мясцовых япіскапаў. Сваю пазыцыю ў гэтым пытаньні мітрапаліт Сяргей выясьніў у лісьце ад 15.12.1941 году да польскага амбасадара ў СССР Станіслава Кота. Але палякам трэба было ведаць кананічнае становішча ПАПЦ, і яны зьвярнуліся па параду да япіскапа Савы.

У тэлеграме з ЗША япіскап Сава паведамляў: *"Трэба ўспамінаць імя Сяргея* (маскоўскага патрыярха, М. Ш.). *Гэта астатняе не перасуджвае справы аўтакефаліі, але ёсьць патрэб-*

аўтакефалію згоды не даваў. Выбару не было. Палёнафільскія праваслаўныя япіскапы й польскі ўрад тады зьвярнуліся з такою просьбаю да канстантынопальскага патрыярха. Усяленскі патрыярх даў сваю згоду на залажэньне аўтакефаліі ў Польшчы ў 1924-м годзе.

Масква аднак новастворанае аўтакефаліі не прызнавала праз гады яе існаваньня і ўважала яе, як некананічную. Ужо пасьля вайны, калі ўладу ў Польшчы ўзялі камуністы, Масква... узнала аўтакефалію ў Польшчы ў 1948-м годзе. Адным словам было так: як у Польшчы правіла санацыя, дык Масква не прызнавала аўтакефаліі, але, калі ўладу захапілі камуністы, дык тады Масква аўтакефалію прызнала. Камэнтары тут не патрэбныя.

У вышэй памянутай тэлеграме япіскап Сава наказвае падлеглым яму сьвятарам не ўспамінаць у набажэнствах імя Дзіянінія, тады мітрапаліта і галавы ПАПЦ, да якога і ён сам падлягаў! Вельмі цікавы й дзіўны наказ. З-за адсутнасьці архіўных матэрыялаў мы ня ведаем, ці быў гэта асабісты наказ япіскапа Савы ці польскага ўраду. Чым кіраваўся япіскап Сава? Пытаньне, ці было гэта згодна з кананічным правам праваслаўнай царквы, пакіну для абмеркаваньня тэолягам. Аднак

тургіі, меў вялікую парафію. Памёр і пахаваны ў Лёндане.

### Япіскап Мацьвей (Сямашка)

Не атрымалася нам даведацца адкуль быў родам япіскап Мацьвей. Паводле адных зьвестак быў ён родам з Холмшчыны, а паводле іншых з Браслаўшчыны. Да Другой сусьветнай вайны быў япіскапам Віленскім. Япіскап Мацьвей разам зь япіскапам Цімафеям Шрэтэрам (па вайне архіяпіскапам Беластоцкім, а потым Мітрапалітам Варшаўскім) былі прыхільнікамі палянізацыі праваслаўнай царквы ў перадваеннай Польшчы.

Палянафільства япіскапа Мацьвея праяўлялася і пазьней, на эміграцыі ў Ангельшчыне. Ен адпраўляў малебны за Польшчу, падпісваўся пад зваротамі на збор грошай для польскіх грамадзкіх эміграцыйных установаў, як прыкладам, тэатру. На колькі мне ведама, не рабіў япіскап Мацьвей заклікаў зьбіраць грошы на пабудову ці куплю сваёй собскай праваслаўнай царквы ў Лёндане.

Пасьля сьмерці япіскапа Савы япіскап Мацьвей ачоліў ПАПЦ у Вялікай Брытаніі. Пасяліўся і жыў у Лёндане. Рукапалажыў у сьвятары некалькі асобаў.

Паміж япіскапамі Саваю і Мацьвеем не было добрых суадносінаў, што і зразумела, зважаючы на палянафільства апошняга.

Памёр япіскап Мацьвей у 1985-м годзе ў Лёндане, дзе й пахаваны. Зь яго сьмерцю ПАПЦ у замежжы фактычна перастала існаваць.

### Айцец Іоан Савіч

Айцец Іоан Савіч быў беларусам родам з-пад Лунінца. Быў гэта культурны, сьціплы сьвятар. Да 1939-га году быў ён вайсковым капэлянам у польскім войску. У тым-жа 1939-м годзе пакінуў Польшчу і праз Балканы, Міжземнае мора прыбыў у Палестыну, дзе і далей быў капэлянам.

дане. Спачатку дапамагаў служыць у ПАПЦ, а потым у Расейскай Зарубежнай Царкве. Памёр і пахаваны ў Лёндане.

### Айцец Усевалад Яськоў

Айцец Усевалад Яськоў быў расейцам і да вайны меў сваю парафію на Віленшчыне. Быў вывезены ў глыб СССР. Потым разам з польскім войскам выехаў у Іран. Быў вайсковым капэлянам на Блізкім Усходзе. Разам з войскам выехаў у Італію. У Італіі пасьля выезду айца Іоана Савіча абняў пазыцыю галоўнага капэляна. Пры канцы 1940-х гадоў прыехаў у Ангельшчыну і пасяліўся ў Манчэстэры.

У Манчэстэры заложаная была вялікая парафія, настаяцелем якой і стаў айцец Усевалад. Парафія называлася *"Усеславянскаю"*, бо прыхаджанамі былі беларусы, расейцы, украінцы ды трохі сэрбаў. Назоў *"Усеславянская"* ня мае нічога супольнага з рэлігіяй, дык назваць парафію гэтым словам было, на маю думку, дзіўным выбарам.

У паваенны час людзі на чужыне хадзілі ў царквы рэгулярна дзеля задаваленьня сваіх духоўных патрэбаў. Акрамя гэтага царквы была цэнтрамі, дзе спатыкаліся знаёмыя, блізкія, аднаверцы. Так было і ў манчэстарскай парафіі.

Праз некалькі гадоў колішняя вялікая парафія апусьцела, і айцец Усевалад пастанавіў выехаць у ЗША. Яго вернікамі ў ЗША (Рокфорд) былі пераважна беларусы. Але і ў Амэрыцы айцец Усевалад не знайшоў шчасьця, аб чым скардзіўся і пісаў у лістах. А скардзіўся *"на всех і на вся..."* Як доўга быў айцец Усевалад настаяцелем у ЗША я ня ведаю. Але хіба ня вельмі доўга.

Ужо ў ЗША айцец Усевалад быў узьведзены ў сан архімандрыта зь імём Вісарыён. Памёр ён у ЗША. У Ангельшчыне заставалася дачка.

Я больш падрабязна апісаў жыцьцё айца Усевалада/Вісарыёна ў артыкуле, надрукаваным у нумары 373 газэты "Беларус" у верасьні 1990-га году.

*Працяг у наступным нумары*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net

№11 (441)


# КАСТРЫЧНІЦКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У Нью Ёрку ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага прайшоў 12-га кастрычніка чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. З кароткім аглядам навінаў зь Беларусі за апошні месяц выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Ён спыніўся, у прыватнасьці, на выбарах старшыні Саюзу Беларускіх пісьменьнікаў, значэньне якіх выходзіць за межы пісьменьніцкай арганізацыі. Справа ў тым, што на загад рэжыму шэраг яговых апалягетаў у Саюзе Беларускіх пісьменьнікаў зрабіў спробу расколоць арганізацыю, і, па магчымасьці, паставіць начале яе сваю асобу, прыхільную да рэжыму. Гэтага, дзякуючы пазыцыі большасьці сяброў Саюзу, не адбылося. Старшынём Саюзу Беларускіх пісьменьнікаў на пазачарговым 14-м зьезьдзе гэтай арганізацыі быў абраны сп. Алесь Пашкевіч, малады літаратар і патрыёт. На зьезьдзе адбылася накаленая дэбата аб будучыні Саюзу і аб будучыні Беларусі, было выказанае непрыняцьце этнацыду, які праводзіць рэжым. Так, Генадзь Бураўкін, вядомы паэт і былы прадстаўнік Беларусі ў ААН, адзначыў, што выглядае на тое, што зьнішчэньне беларускай мовы й культуры адбываецца па "запаветах" губернатара Муравьева-Вешальніка: "В Северо-Западном крае т.н. белорусский язык необходимо свести на ничто, ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя". Пісьменьнікі прынялі вострую рэзалюцыю супраць лукашэнкавага гандлю незалежнасьцю Беларусі й супраць імпэрскіх памкненьняў Расеі.

Спроба паставіць Саюз пісьменьнікаў пад кантроль рэжыму паказвае, што Лукашэнка імкнецца зьнішчыць абсалютова ўсе праявы незалежнай думкі й дзеяньня ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця. Ідзе націск на незалежныя газэты й журналістаў. Прафсаюзы й Акадэмія Навук фактычна зробленыя часткай дзяржаўнага апарату, пад патрэбы рэжыму створаная штучная маладзёвая арганізацыя, ідэалягічны кантроль пануе ва ўсіх галінах навукі й адукацыі. Адною зь нешматлікіх грамадзкіх дзялянак, якія пакуль ня ёсьць пад кантролем рэжыму, застаюцца незалежныя інстытуцыі па апытаньні грамадзкай думкі. І гэта занепакоіла Лукашэнку менавіта цяпер, калі яговы рэйтынг стала зьніжаецца. Таму неўзабаве адбудзецца перагляд дзейнасьці незалежных сацыялягічных службаў пры дапамозе стварэньня рэжымам "камісіі па апытаньні грамадзкай апініі", якая зоймецца "ўпарадкаваньнем" правядзеньня сацыялягічных апытаньняў. Ясна, што незалежныя арганізацыі, якія займаюцца доследам грамадзкай апініі, апынуцца пад пагрозаю жорсткага кантролю рэжымам іхнай дзейнасьці, а нават і ліквідацыі.

Выступоўца спыніўся таксама на такіх падзеях, як: прыняцьце палатаю прадстаўнікоў новага антыдэмакратычнага закону аб веравызнаньнях у Беларусі й прайшоўшых акцыях пратэсту супраць яго; агульнабеларускі страйк прыватных прадпрымальнікаў; апошнія акцыі ўладаў па шантажы й застрашваньні журналітаў незалежных выданьняў, ды іншых.

Пасьля гэтага адбылася невялікая літаратурная вечарына, прысьвечаная творчасьці Янкі Купалы й Якуба Коласа, 120-гадовы юбілей якіх сьвяткуецца сёлета. Сп. В. Зайка даў кароткі агляд творчасьці пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, адзначыўшы між іншага, што і Колас, і Купала былі таксама беларускімі нацыянальнымі грамадзкімі дзеячамі, марылі й заклікалі ў сваёй творчасьці да пабудовы вольнай, незалежнай Беларусі, каб беларускі народ сам вырашаў свой лёс і будаваў сваю дзяржаву. Расейскія камуністычныя правілы ніколі не даравалі гэтага нашым песьнярам, і шэраг іхных твораў быў забаронены ў савецкія часы, а ў 1937-м годзе нават плянавалася зрабіць паказальны працэс супраць беларускага нацыяналізму, дзе на лаве падсудных меркавалі зьмясьціць Купалу і Коласа.

Ня дужа даспадобы беларускае слова і сёняшнім уладам у Беларусі, якія зрабілі ўсё, каб юбілей нашых прарокаў-песьняроў прайшоў ціха і незаўважана, каб не спрычыніўся да абуджэньня нацыянальных пачуцьцяў і сьведамасьці ў народзе. Прысутныя паслухалі вершы Янкі Купалы й урыўкі з паэмы "Новая Зямля" Якуба Коласа, якія хораша, натхнёна прачытала сп-ня Валянціна Якімовіч.

З паведамленьнем пра народнага майстра Ўладзімера Пузыню, якога ў выніку інтрыгаў антыбеларускіх сілаў пазбаўляюць майстэрні-лабараторыі па вырабе народных музычных інструмэнтаў "Беларуская хатка" пры менскім Унівэрсытэце культуры, выступіла сп-ня Валянціна Якімовіч. Яна распавяла пра складаны жыцьцёвы шлях і творчасьць народнага майстра, пра перасьлед яго ўладамі.

Старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелойць зрабіў паведамленьне пра надрукаваную нядаўна кнігу "Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі", якая выйшла ў Менску пры ўдзеле В. Кіпеля й З. Саўкі ў "Бібліяграфічнай сэрыі" Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ) у Нью Ёрку і падае інфармацыю пра ўсе вядамыя сёньня слоўнікі й энцыкляпэдыі, пачынаючы ад Лаўрэнція Зізанія і да нашых дзён. Выданьне зьмяшчае таксама зьвесткі пра дагэтуль неапублікаваныя рукапісы й картатэкі. Сп. Шукелоць даў шырэйшы агляд выдавецкай дзейнасьці беларускай эміграцыі, ўзгадаў дасягненьні беларускіх мовазнаўцаў, этнографаў ды іншых навукоўцаў.

У разьдзеле "Рознае" прысутныя маглі зрабіць абвесткі й паведамленьні, паслухаць гасьцей аддзелу.

Сп-ня Ганна Сурмач, супрацоўніца Радыё "Свабода", старшыня суполкі "Скарына" ў Чэхіі, былая дырэктарка Архіву Літаратуры і Мастацтва і былая старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", перадала прысутным прывітаньне ад праскіх беларусаў, падзялілася ўражаньнямі ад свайго першага наведваньня Фундацыі імя Крэчэўскага 8 гадоў таму, распавяла пра сваю працу па падрыхтоўцы кнігі й сэрыі радыёперадачаў, прысьвечаных 50-годзьдзю беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", якое будзе адзначацца ў траўні 2004-га году. Сп-ня Сурмач таксама распавяла пра праграму перадачаў "Беларускае Замежжа", якую яна вядзе разам зь Сержуком Сокалавым-Воюшам, і запрасіла прысутных прыняць у ёй удзел.

Архіяпіскап Юры паведаміў прысутным пра апошнія падзеі ў пасёлку Пагранічны на Гарадзеншчыне, калі прадстаўнікі амэрыканскае амбасады не былі дапушчаныя да сустрэчы зь вернікамі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якія ладзілі набажэнства ў намёце на месцы разбуранай уладамі царквы. Ён паведаміў таксама, што сёлета спаўняецца 10 гадоў, як былі закладзеныя капсулы ў падмурак першых будаваных у Беларусі храмаў Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы.

Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя, як заўсёды, мелі магчымасьць пабавіць час у прыемных сяброўскіх гутарках пры каве й напоях.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | |
|---|---|
| А. Бараноўская .....100 | В. Трацьцяк .......30 |
| М. Сьнежка ........40 | Н. Пратасевіч ......25 |
| А. Дзейка ..........30 | К. Суслава .........25 |
| В. Кузьменка .......30 | Шчыры дзякуй! |

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 9-га ЛІСТАПАДА 2002-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

# НАШ БЕЛАРУСКІ ШАСЬЦІКАНЦОВЫ КРЫЖ

У 30-я гады мінулага стагодзьдзя і за часы нямецкай акупацыі найбольш знакамітаю асобаю, як знаўца мастацтва і культуры, быў у Менску скульптар і прафэсар *Міхаіл Керзін*. Аўтарытэт ягоны быў надзвычай высокі. Напачатку 40-х гадоў, калі нямецкія акупанты ўжо абсталяваліся ў горадзе, і кіраўніком цывільнае адміністрацыі Генэральнай Губэрніі быў прызначаны Вільгэльм Кубэ, тады дазволена было беларусам аднавіць беларускі гістарычны музэй, які знаходзіўся ў так званым "Юбілейным Доме". (Пабудаваны ў 1913-м годзе ў манэры "а ля рюс" у гонар юбілею расейскай царскай дынастыі. Цяпер там Дом актора. 25-га сакавіка 1918-га году там была аб'яўленая незалежнасьць БНР.)

Дырэктарам беларускага музэю заступіў ***Антон Шукелойць***, які акурат уцёк з бальшавіцкай турмы ў Крупках (фактычна, з-пад расстрэлу) і апынуўся ў Менску. (Як толькі пачалася вайна, энкавэдысты схапілі яго і разам з тысячамі такіх як ён арыштаваных беларускіх інтэлігентаў павезьлі этапамі на Ўсход.)

Пачалі фармаваць музэйную экспазыцыю. І вось сабралі аднаго разу ўсе ўнікальныя археалягічныя экспанаты, якія засталіся ад ранейшага менскага музэю, расклалі на вялікім шырокім стале каменныя сякеры, наканечнікі, фігуркі, амулеты й задумаліся, што з гэтым рабіць.

Паклікалі прафэсара Керзіна, каб той парадзіў. Прафэсар прыйшоў, кінуў вокам, паўзіраўся і кажа:

- Нясіце вядро.

Прынесьлі вядро. А прафэсар гэтак адным махам шырокае рукі згроб усе археалягічныя экспанаты й - шух у вядро.

- Выносьце, - кажа, - на сьметнік. - Гэта-ж падумаць толькі, - прадаўжаў далей прафэсар Керзін пасьля ўсеагульнай замінкі, - Масква ўсюды рабавала, дзе толькі магла! Па ейнай палітыцы, ніякай культуры ў Беларусі не павінна было быць. Усе арыгінальныя знаходкі й унікумы - сабе ў Маскву забралі, а нам тут, у Беларусі, муляжы пакінулі, падробкі, хлам: радуйцеся! О, гэта адмыслова. У іх розум не на дабро, ведалі, што рабілі, - рэзюмаваў прафэсар.

* * *

Гэтую гісторыю расказаў мне аднойчы Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антон Шукелойць, разважаючы пра Крыж Еўфрасіньні Полацкай. Муляж Крыжа (калі не прымаць пад увагу ягоную ілюстрацыйную ўжытковасьць) мае, на мой погляд, такі самы сэнс для культуры й такую-ж цану, як і той хлам, які некалі не раздумваючы прафэсар Керзін выкінуў у вядро для сьмецьця.

Муляж наталяе розум, але засоньвае дух, стварае ілюзію, што ўжо нешта ёсьць. Падробка дае ўяўленьне і спрыяе забыцьцю рэальнасьці.

Калі-б хто думаў спэцыяльна, што зрабіць, каб прымусіць беларусаў забыцца пра сваю зрабаваную маскоўцамі культуру і пра яе духоўны сэнс, то замест кляйнота стварыў бы дублікат, пустышку, каб улагодзіць і заспакоіць сярэдніх людзей і тых, хто ня ведае і не разьбіраецца (якіх, на жаль, вельмі шмат).

Што датычыць рэальнага Крыжа Еўфрасіньні, то тут, на мой погляд, сэнс найглыбейшы. Я-б сказаў, эзатэрычны сэнс, цудатворны й лёсавызначальны для ўсяго беларускага народу. Зьдзіўляе, зь якой пасьлядоўнасьцю расейцы-бальшавікі імкнуліся неўпрыкметна зьнішчыць Крыж, завалодаць ім, ня даць, каб ён заставаўся ў Беларусі.

Зь літаратуры ведама, што ў 1929-м годзе ГПУ-НКВД вывез Крыж Еўфрасіньні Полацкай зь Менску ў Магілёўскі музэй. (Захаваліся нават прозьвішчы тых гэбістаў, якія вывозілі.) Патлумачылі тады акцыю тым, што, маўляў, рэліквію трэба трымаць як мага далей ад дзяржаўнае мяжы, каб гарантаваць бясьпеку.

У канцы 70-х мне прыходзілася некалькі разоў размаўляць пра Крыж з былым дырэктарам Магілёўскага гісторыка-краязнаўчага музэю спадаром Філіповічам, які ў 1941-м годзе працаваў у музэі й прысутнічаў пры эвакуацыі ягоных экспанатаў. Ён цьвердзіў, што энкавэдзісты вывезьлі тады Крыж ў Маскву.

Праўда, пасьля вайны была пушчаная плётка (хутчэй за ўсё, праз КГБ), што, быццам-бы, Крыжа на той час у Магілёве не было, і што няведама, дзе ён. Пазьней пускаліся іншыя чуткі, што быццам-бы Крыж трапіў то ў Амэрыку (называлі нават калекцыю Моргана), то ў Аўстралію, то ў беларускую эміграцыю, Бразылію і г.д.

Пусканьне плётак тымі, хто скраў Беларускую Рэліквію, мяне не зьдзіўляе. Я схільны верыць Філіповічу. Бальшавікі пры эвакуацыі музэя, першым чынам забралі-б Крыж, а не муляжы каменных сякераў, кшталту тых, якія выкінуў на сьмецьце прафэсар Керзін.

Але нават калі-б сапраўды ў 1941-м годзе Крыжа ўжо не было ў Магілёве (хадзілі чуткі, што яго хавалі ў абкамаўскім партыйным сэйфе), то ці могуць быць сумненьні ў тым, дзе ён апынуўся пасьля таго, як гэбісты забралі яго зь Менску?!

Крыж схаваны ў Маскве, і прычыны ягонага знаходжаньня там, відаць, ня толькі культурна-матэрыяльныя і музэйныя. Нездарма гэтым займаўся НКВД. Там думалі наперад, нішчылі ўсё дзеля "сьветлай камуністычнай будучыні". (І, як паказала гісторыя, дзеля расейскай і гэбоўскай будучыні таксама.)

Для беларускае нацыі ***Полацкі Крыж*** ёсьць сакральны агульнанародны сымбаль, гэтак-жа, як ***Пагоня, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, Вільня, Курапаты, Абраз Маці Божай Вострабрамскай, Наваградак, Мірскі замак, Нясьвіж, Полацак,*** рака ***Нёман*** і гістарычная рака ***Няміга*** (дзе цаной вялікіх ахвяраў, у крывавай бітве былі спыненыя чужынцы), ***Белавеская Пушча, Крэва*** і г.д. (Дарэчы, нават маючы на ўвазе толькі тое, што я назваў, заўважце, куды цаляюць непрыяцелі.)

Добра ведамы таксама ***Запавет*** Шасьціканцовага Крыжа Еўфрасіньні, сэнс якога ў тым, што Крыж "жыватворыць" душы народу, сьцеражэ, аберагае краіну. Страта Крыжа - пазбаўляе народ апекі й прынясе няшчасьце тым, хто яго ўкрадзе.

І вось ён зьнік. Ад пачатку 40-х гадоў яго ўжо няма ў Беларусі. Запавет прыдае Крыжу значэньне перспэктыўнага і мабілізуючага нацыю сымбаля. (У мяне ўзьнікае падазрэньне, што найперш таму ён і быў выкрадзены бальшавікамі-расейцамі. У ягоным зьнікненьні прачытваецца злая воля.)

Крыж Еўфрасіньні - гэта беларускі Грааль, толькі захоўваецца ён ужо не на Монтсальвачы (Полацку), а, відаць, у д'ябальскім замку Шахтэльмарвайль.

Нагадаю, што Полацкі Шасьціканцовы Крыж, які сымбалізуе Боскае стварэньне сьвету (шэсьць канцоў - шэсьць дзён стварэньня) ёсьць Крыж-Куфэрак, у якім захоўваюцца кавалак Крыжа Хрыстовага з кроплямі Ягонай Боскай крыві й асколак каменю з крыпты (труны) Багародзіцы.

Калі паўзірацца на нашыя пасьляваенныя гады, то відаць, што то тут, то там зьяўляюцца людзі, якім не дае спакою лёс Полацкага Крыжа. Яны пачынаюць разважаць, дзе-б ён мог быць. Некаторыя нават парываліся яго безвынікова шукаць. Але, зразумела (хоць, магчыма, яшчэ нямногім), што шукаць Полацкі Крыж трэба ня толькі ў натуральным ягоным выглядзе, як канкрэтную нацыянальную рэліквію, але здабываць у духу, як найсьвятлейшую, вечную праўду, знайшоўшы якую, народ становіцца - бесьсьмяротным.

І вось, калі ў чарговы раз зноў ажыла цікавасьць да Полацкага Крыжа, аднекуль, зь вельмі сумніўных сфэраў сьведамасьці, зьяўляецца прымітыўная ініцыятыва стварыць ілюзыю Крыжа, падробку, каб заспакоіць інтэрас ды суцішыць неабуджаны дух. Ствараецца муляж рэліквіі (1997-ы год), фальшыўка, і хараша абгрунтоўваецца; дзіўныя спонсары, зьвязаныя з Расеяю, дапамагаюць яе зрабіць. Утварылася зьява, як наш цяперашні суверэнітэт, які, заўважце, карэлюецца з муляжным падабенствам Вялікага Сымбаля.

У іншых умовах і абставінах, пры адсутнасьці маскоўскага сьледу і пры поўнай няведамасьці пра месца знаходжаньня Крыжа, можа і не было-б у гэтым чыне вялікае бяды. Хутчэй за ўсё, нават рэалізаваліся-б добрыя памкненьні. Але калі ведаем і здагадваемся, што злодзей засеў там, у цёмным замку Кліншора, за крамлёўскімі сьценамі, то ўся гэтая самадзейнасьць выглядае інакш.

Тут выяўляецца тыпалягічная рыса пэўнай зьявы. У дачыненьні да беларускай культуры я назваў-бы яе "адмоўным эфэктам Керзіна". Яна (гэтая зьява) вынікае з тыпалёгіі ашуканства і каляніяльных дачыненьняў. Гэтак бэльгійцы некалі рабавалі Афрыку, забіралі дыямэнты ды алмазы, а ўзамен давалі шкляныя пацеркі (каб цешыліся). З цывілізаваным народам можна абыходзіцца гэтак-жа, калі давесьці ягоную сьведамасьць да ўзроўню Афрыкі.

У апошні час знаходжаньнем Крыжа цікавіўся Пётра Краўчанка, былы міністар замежных справаў Беларусі. Але ён ніколі не задумваўся пра Грааль, таму ягоная мімалётная цікаўленасьць ні да чаго не прывяла, а сам ён неўзабаве ператварыўся ў "японскага пасла" ў краіне Ўзыходзячага Сонца.

Што дзень наступны нам рыхтуе? Калі вернецца ў Беларусь Полацкі Шасьціканцовы Крыж? Дзе ягоныя адважныя рыцары й абаронцы? Хто дасьць адказ?

Але ня трэба адказу. Ужо даўно, так даўно, што сталі, як мроя, "усё лятуць і лятуць тыя коні, срэбнай збруяй далёка грымяць..."

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## Ліст у рэдакцыю

У верасьнёўскім нумары "Беларуса" быў апублікаваны допіс Юрыя Весялкоўскага пра лёс Марыян Гаўзу і ўвогуле беларускай нерухомасьці ў Лёндане. На жаль, гэты допіс утрымлівае абцяжараныя эмоцыямі сьцьверджаньні, заснаваныя на здагадках аўтара, а не на вестках, якія можна было-б пацьвердзіць дакумэнтальна. Я хацеў-бы даць некалькі камэнтароў, каб у зацікаўленых чытачоў не паўстала прыкрых падазрэньняў і неспакою, што яны маглі быць уведзеныя ў зман аўтарамі звароту (сярод якіх быў і я) пра небясьпеку страціць Марыян Гаўз. Гэты зварот у свой час апублікаваў "Беларус" і яшчэ тры газэты, вынікам чаго стала мноства лістоў, дасланых у Ватыкан, з просьбаю захаваць будынак і капліцу, якая разьмешчаная там, за беларускаю супольнасьцю.

Калі я правільна зразумеў думку сп. Весялкоўскага, ён сьцьвярджае, што з чатырох беларускіх дамоў у паўночным Лёндане толькі адзін -будынак бібліятэкі - належыць беларусам. Праўдай ёсьць тое, што іншыя два таксама бяспрэчна належаць Беларускай каталіцкай місіі. У адным зь іх знаходзіцца заля - адзінае сёньня ў Лёндане месца, дзе беларусы зьбіраюцца на сьвяты, лекцыі і г. д. Каталіцкая місія заўсёды служыла беларусам (яна і называецца беларускай) усімі сродкамі, якія толькі былі ў ейным распараджэньні. Таму няма прычынаў кпіць, што за ўсе падзеі, якія адбываюцца, па словах сп. Весялкоўскага, "у залі беларускага цэнтру... чулася падзяка айцу Надсану за дазвол": гэты рэлігійна-культурны цэнтар застаўся адзіным месцам у Брытаніі, дзе беларусы могуць пачуваць сябе гаспадарамі і рабіць творчыя рэчы - зьбіраць бібліятэку і музэй, выдаваць кнігі й газэты, рабіць вэб-сайты, сьвяткаваць Купальле і Каляды, утрымліваць беларускую школку для дзяцей. Маліцца па-беларуску таксама. Дазволу беларусы ў а. Надсана ня прасяць таму, што на задуму стваральнікаў гэтага асяродка, у тым ліку і а. Надсана, месца гэтае ня чужое, а нашае, беларускае. Так доўга, пакуль на місіі будуць беларусы й сьвятар (ці сьвятары), так доўга гэты асяродак будзе служыць патрэбам беларускай супольнасьці. Але калі здарыцца прыкры дзень, і місія зьнікне, то вініць у гэтым мы будзем толькі сябе: ня здолялі прыўзьняцца над асабістымі рахункамі ці прыналежнасьцю да розных цэркваў. Я пражыў на місіі чатыры гады й ведаю дакладна, што праваслаўны, лютаранін ці няверуючы атрымае тут такі самы прыём, як і любы каталік, бо пад адным Богам ходзім і на адной мове гаворым.

Іншая рэч з Марыян Гаўзам, найбольшым і найпрыгажэйшым з дамоў "беларускай вескі" ў Лёндане. Сытуацыя зь ім склалася прыкрая, пра што аўтары згаданага вышэй звароту пісалі падрабязна. Капліца ў ім засталася, ідуць штодня службы, але жыхары ўжо выселеныя. На жаль, Марыян Гаўз афіцыйна не належыць Каталіцкай місіі, хоць збольшага на ахвяраваньні беларусаў ён набыты. Тут я мушу запрасіць сп. Весялкоўскага ў Скарынаўскую бібліятэку, каб упэўніцца, што існуюць сотні падпісных лістоў на набыццё Марыян Гаўзу, у якіх ад рукі напісаныя тысячы беларускіх прозьвішчаў з усяго сьвету і сумы, гэтымі людзьмі ахвяраваныя. Менавіта таму, што мы маем гэтыя лісты, мы, аўтары звароту да кіраўніка Ватыканскай Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, адчувалі за сабою права настойваць на захаваньні Марыян Гаўзу ў карыстаньні беларусаў.

Ліст сп. Весялкоўскага стварае вельмі прыкрае ўражаньне. Я разумею, што ў мінулым праваслаўным з уніятамі часта не атрымлівалася сябраваць. Але сёньня такі стан рэчаў на чужыне выглядаў-бы прынамсі неразумным. Будзьма рэалістамі, мы проста ня маем сілаў, каб сварыцца яшчэ больш. Думаю, я не памылюся, калі скажу, што посьпех беларускага жыцьця на Каталіцкай місіі трымаецца як раз на нашай здольнасьці (і дзякуй Богу за тое) думаць не пра падзелы на такіх і сякіх, а пра тое, як больш творча папрацаваць і сабе на радасьць і іншым на карысьць. На місіі цяпер жыве група маладых беларусаў, ня толькі каталікоў. І, канешне, а. Аляксандар. Мы молімся ў адной царкве, ямо за адным сталом, часам да крыўды спрачаемся. Мы маем сяброў-беларусаў і ангельцаў, якія жывуць самастойна, але безь якіх "беларускую вёску" немагчыма ўявіць. Усё бывае, але ў выніку нам атрымліваецца не разьбегчыся, не пакрыўдзіцца да сьмерці й не згубіць адзінага ў Брытані і беларускагаг асяродку, які ўжо стаў унікальным прыкладам таго, як беларусы могуць жыць разам, не разбураць нічога, але творча ствараць сваё жыцьцё няхай і сьціплым, але радасным і вартым стараньняў. Рэцэпт тут толькі адзін: не крыўдаваць на іншых і сьціпла рабіць тое, што атрымліваецца рабіць найлепш.

***Ігар ІВАНОЎ***

# МАЙСТРА І МУЗЫКА ЎЛАДЗІМЕР ПУЗЫНЯ

Зямелька нашая беларуская, па бяскрайніх палёх і лугох якой, бы вены, бруяцца ціхаплынныя рэкі, а ў прагалінах лясных мерны шоргат хваляў азёрных, таямнічыя гукі балотаў бяздонных - у чым сакрэт, што любім цябе так бясконца, што нараджаецца на табе люд тутэйшы добры, па-дзіцячаму шчыры, працавіты ды багаты на розныя таленты?

26-га лютага 1940-га году у вёсачцы Суцін недалёка Талькі на Любаньшчыне нарадзіўся Уладзімер Пузыня - нашчадак вядомага беларускага шляхецкага роду.

Вядома-ж, бясконцыя войны з маскалямі ды ляхамі, стагодзьдзі няволі ды дзесяцігодзьдзі савецкай улады пусьцілі па ветры заможнасьць княскую, зраўнялі ўсіх у жабрацкім стане. Але тое, што вышэй матэрыяльнага - дух шляхетны - яны ўсё-ж зьнішчыць не змаглі.

Бацька Уладзімера - Якуб Пузыня загінуў на фронце ў 1941-м годзе пад Смаленскам. Маці Вольга , ухапіўшы старэйшага паўтарагадовага Валодзьку, з малодшым дзіцём-немаўляткам на руках кінулася з эшалёнам бежанцаў на Украіну. Па дарозе меншы сыночак загінуў ад голаду. У 1943-м годзе ў царкве Пераслава-Хмяльніцкага Уладзімера Пузыню хрысьцілі. Калі праз год Чырвоная армія выганяла немцаў зь Беларусі, маці пачала дабівацца, каб дазволілі вярнуцца на Радзіму. Ды рэч у тым, што ў Беларусь дазвалялі ехаць усім, хто хацеў, апроч самых беларусаў. Праз усе перашкоды ўсё-ж змаглі вярнуцца на бацькоўскую зямлю. Потым было цяжкое дзяцінства, скончыў школу, працаваў качагарам, потым лякальшчыкам на заводзе. Скончыў музычную семігодку, музычную вучэльню па клясу трубы, але хвароба не дазволіла граць на ёй. Уладзімер трапіў у магілёўскую школу мастацтваў па рэстаўрацыі, там вывучэў майстэрства іканапісу. Асвоіў шмат якія духавыя інструмэнты, выкладаў у дзіцячай музычнай школе, саліраваў у народным аркестры Жыновіча.

У 1970-я гады разам з Уладзімерам Крайко пачаў рабіць дудкі, ліры, зрабіўся майстрам па вырабу і рэстаўраваньню беларускіх народных інструмэнтаў, стварыў сваю майстэрню.

З 1982-га году Уладзімер Пузыня працаваў у Інстытуце Культуры ( цяпер Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт Культуры) выкладчыкам (пасьля старэйшым выкладчыкам) па аваладаньні ігрою на беларускіх народных інструмэнтах. Там ён хутка адчыніў лябараторыю па адраджэньню і вырабу беларускіх народных інструмэнтаў "Беларуская Хатка". У ёй наладзіў рамонт і выраб унікальных ліраў, дудаў, адрадзіў старажытныя, ужо забытыя, сурму і жалейку, хорум, апісаньне якой было толькі ў летапісах і на малюнках. У 1990-м годзе Уладзімер Пузыня напісаў і выдаў кнігу "Школа ігры на беларускіх народных інструмэнтах", у вялікай меры дзякуючы якой уперашыню ў гісторыі музычнага мастацтва беларускія народныя інструменты ўвайшлі ў партытуру опэрнага сымфанічнага аркестра.

Свой вопыт народны майстра перадаў сыну Алесю, які скончыў Унівэрсытэт Культуры. У пачатку 1990-х гадоў ні адзін значны канцэрт ці якая іншая ўрачыстасьць не праходзілі без удзелу музыкаў Уладзімера і Алеся Пузыняў. Яны заўжды былі ў гушчы культурных і палітычных падзеяў Беларусі.

А колькі было выступаў у дзіцячых садках, школах, інстытутах, музэях з мэтаю прапаганды нацыянальнага мастацтва!? Не пералічыць! І ўсё гэта рабілася не за грошы й узнагароды, а па добрай волі душы й сэрца. Інакш яны не маглі!



У 1994-м годзе бацька і сын, каб рэпрэзэнтаваць Беларусь на фэстывалі лірнікаў у Францыі, выправіліся туды за свой кошт. Праз год музыкаў запрасілі з канцэртам у ЗША ў штат Тэхас. А вярнуліся дахаты яны ўжо пасьля ганебнага рэфэрэндуму. Усё крута памянялася, пачынаючы з адносінаў кіраўніцтва Унівэрсытэта Культуры, дзе месьціцца "Беларуская Хатка". У момант зрабіліся непатрэбнымі ня толькі беларуская сымболіка, мова і культура, але і самыя беларусы сталі ізгоямі на ўласнай зямлі. Адразу стаў непатрэбным і Уладзімер Пузыня. Спачатку яму далі працу толькі на палову стаўкі, а потым выправілі на пэнсію. Цяпер хочуць прыбраць да рук і "Беларускую Хатку". Знайшлася пара маладзейшых і больш пакладзістых "вучняў", якія хацелі-б там працаваць. Адзін зь іх неаднойчы прылюдна выступаў з заявамі, што беларуская мова - гэта толькі сапсаваная расейская. Сп. Пузыня выробляе свае інструмэнты так, як рабілі некалі нашыя продкі, толькі з выбраных гатункаў дрэва, якое шмат гадоў вытрымлівае ў пэўных умовах. А гэтыя "вучні" ужо пачалі вырабляць ва ўнівэрсытэце танныя, хутка робленыя інструмэнты з эбаніта і плястыка, перахапілі ў свайго настаўніка ідэю стварэньня "майстэрні-клясы". Пачалося цкаваньне народнага майстра.

Сёлета спаўняецца 20 гадоў ад часу стварэньня майстэрні-лябараторыі "Беларуская Хатка", і вось такі падарунак атрымлівае яе заснавальнік за руплівую працу і жыцьцё, пакладзенае на адраджэньне культурных традыцыяў беларускага народу. І крыўдна, і прыкра.

Відавочна, што справа тут не ў асобе сп. Пузыні, а ў тым, што сваёю творчасьцю ён уздымае наш дух, нашу годнасьць і гонар, узвышае беларускую культуру на сусьветную вышыню, дзе ёй і належыць зьзяць.

Але Уладзімер Пузыня і ягонае майстэрства ўжо прызнаныя цэлым сьветам. Свае веды ён перадаў сыну і іншым вучням. Ягоныя дасягненьні ў народным мастацтве відавочныя і неаспрэчныя. А гукі ягоных мэлёдыяў навекі застануцца ў душах сапраўдных беларусаў і іх нашчадкаў!

Сп. Пузыня яшчэ мае час. Сьцены, дзе ён змог-бы працягваць сваю творчасьць абавязкова знойдуцца.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

***На здымку: выступае Уладзімер Пузыня з сынам Алесем.***

# АДГУКНІЦЕСЯ,
## ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Працуючы над іменным паказьнікам да кнігі Міколы Панькова "Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945-1984)", я раз-пораз лавіла сябе на думцы пра тое, як часта ў гэтай кнізе згадваліся жанчыны, імёны якіх нічога ня кажуць ня толькі маім маладасьведчаным сучасьнікам-беларусам, але і спэцыялістам па гісторыі беларускай эміграцыі. Поўныя імёны некаторых жанчынаў мне так і не ўдалося высьветліць нават пры дапамозе знаёмых у ЗША, Канадзе і Аўстраліі. Чаму так адбываецца?

У беларускай гістарыяграфіі традыцыйна склалася, што галоўнымі яе героямі зьяўляюцца мужчыны. Вядомых зь гісторыі жанчынаў, якія згадваюцца ў падручніках, можна пералічыць па пальцах: Рагнеда, Еўфрасіньня Полацкая, Барбара Радзівіл, Цётка, Ларыса Геніюш, Натальля Арсеньнева… Складваецца ўражаньне, што жанчынаў у нашай гісторыі, у тым ліку эміграцыйнай, амаль зусім не было. Іх жыцьцё, інтарэсы, дзеяньні, пачуцьці - усё гэта ня ўпісваецца ў традыцыйнае разуменьне гісторыі.

Гэта-ж адбываецца і ў дачыненьні да гісторыі беларускай эміграцыі. Шмат хто ведае пра Міколу Абрамчыка, Радаслава Астроўскага, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Антона Адамовіча, Янку Станкевіча, Алеся Салаўя і г.д… Але хто з маіх суайчыньнікаў можа распавесьці пра ўдзельніцу Міжнароднага Кангрэсу Жанчынаў у Парыжы (1947-м годзе) і рэдактарку газэты "Беларуска" Ніну Ляўковіч-Абрамчык, пра стваральніцу Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Клïўлэндзе Клаўдзію Каляда, пра сакратара Беларускага Жаночага Камітэту ў штаце Вікторыя (Аўстралія) Надзею Груша, нават пра арганізатарку Задзіночаньня Беларускіх Жанчынаў Канады Раісу Жук-Грышкевіч мала хто зможа згадаць. А што казаць пра іншых жанчынаў, якія не займалі кіраўнічых пасадаў? Іх нібыта няма і не было ніколі.

Як і ва ўсёй беларускай гісторыі, яны застаюцца нябачнымі дзеючымі асобамі беларускай эміграцыі. Традыцыйна на іх трымаецца ўнутраны дабрабыт сем'яў, яны імкнуцца перадаць беларускасьць дзецям, яны падтрымліваюць мужоў у іхнай дзейнасьці на нацыянальнай ніве. Аднак жанчыны таксама актыўна ўдзельнічаюць у зборы сродкаў на розныя патрэбы беларускай дыяспары, сваімі мастацкімі працамі яны дапамагаюць рэпрэзэнтаваць Беларусь на разнастайных міжнародных выставах і форумах, яны займаюць актыўную грамадзкую пазыцыю. Ці ж гэтага мала для таго, каб зрабіць іх паўнапраўнымі гераінямі нашай гісторыі?

Аднак як гэтую гісторыю напісаць? Як распавесьці сучасьнікам-беларусам пра жанчынаў эміграцыі, якім нават уласна эмігранцкія выданьні надавалі так мала ўвагі? Зьвесткі выпадае зьбіраць па крупінках, па фрагмэнтарных згадках, вельмі часта без імёнаў ды прозьвішчаў…

Немагчыма напісаць гісторыю жанчынаў беларускай эміграцыі без дапамогі самых жанчынаў. І я зьвяртаюся да ўсіх прадстаўніцаў далёка не слабое паловы беларускай эміграцыі, дапамажыце, калі ласка, у зьбіраньні матэрыялаў пра Вас і Вашых сяброваk і знаёмых. Напішыце пра сваё жыцьцё на эміграцыі так, як Вы яго бачыце. Распавядзіце пра жаночыя арганізацыі й удзел жанчынаў у агульнабеларускіх камітэтах, таварыствах, задзіночаньнях… Згадайце пра сваіх сваячак і знаёмых беларусак, якіх ужо няма - іх лёсы - частка нашай агульнай беларускай гісторыі, якую мы ўсе павінны ведаць.

У сваіх расповядах Вы можаце абапірацца на пункты прапанаванага апытальніка, якія заклікаюць дапамагчы Вам ва ўспамінах. На падставе Вашых адказаў і апавяданьняў маю надзею зрабіць ня толькі адмысловае дасьледаваньне гісторыі беларускіх жанчынаў на эміграцыі, але і стварыць энцыкляпэдычны даведнік персаналій і арганізацый, а таксама выдаць зборнік успамінаў прадстаўніцаў беларускай дыяспары.

Жанчыны беларускай эміграцыі, адгукніцеся! Хто напіша Вашую гісторыю, калі ня Вы самыя?!

**Апытальнік**

1. Агульныя біяграфічныя зьвесткі: імя, прозьвішча, год і месца нараджэньня, бацькі, адукацыя, сучасны склад сям'і.
2. Калі й пры якіх абставінах Вы выехалі зь Беларусі? Чым займаліся да ад'езду за мяжу?
3. У якіх умовах жыла Вашая сям'я па таго, як асела на сталае жыхарства? Чым займаліся Вы?
4. Чаму Ваша сям'я асела менавіта ў гэтай краіне? Якія абставіны на гэта паўплывалі? Хто рабіў выбар?
5. Як разьвівалася Ваша прафэсыйная дзейнасьць на эміграцыі?
6. Як зьмянілася эканамічнае жыцьцё Вашай сям'і на эміграцыі? Палепшала ці пагоршала?
7. Якая сфэра жыцьця для Вас стаяла на першым месцы: сям'я ці праца? Чаму?
8. Ці зьмяніліся сямейныя адносіны на эміграцыі? У які бок?
9. Ці маеце Вы якое гобі? Якой літаратуры аддаеце перавагу зараз?
10. Як наладзілася Вашае рэлігійнае жыцьцё на эміграцыі?
11. Ці ўзьнікала ў Вас патрэба ў стасунках з суайчыньнікамі? Калі так, то як Вы яе задавальнялі?
12. Ці бралі Вы ўдзел у беларускіх нацыянальных і адмысловых жаночых арганізацыях? Калі і ў якіх?
13. Як зьмянілася культурнае жыцьцё Вашай сям'і на эміграцыі? На якой мове Вы размаўляеце ў сям'і? Ці вучылі дзяцей беларускай мове? Хто ў сям'і, на Вашую думку, быў захавальнікам нацыянальных традыцыяў?
14. Ці ўзьнікала ў Вас жаданьне вярнуцца на Радзіму? У сувязі з чым?
15. Як Вы ацэньваеце ролю жанчынаў у беларускім нацыянальным руху на эміграцыі: у арганізацыях, выхаваньні, культурным жыцьці і г.д.?
16. Пра каго яшчэ з жанчынаў беларускай эміграцыі Вы можаце паведаміць?

Вашыя адказы накіроўвайце, калі ласка, на адрас:

*Гардзіенка Натальлі*
*вул. Казінца 51/5-8*
*220099 Мінск*
*БЕЛАРУСЬ*
*(e-mail: hardzijenka@tut.by)*

або на адрас Лявона Юрэвіча ў Нью Ёрку (ён знойдзе магчымасьць перадаць іх у Менск):

*Liavon Yurevich*
*204 Ave N*
*Brooklyn, NY, 11230, USA*

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

# СЬВ. ПАМЯЦІ ЛЕАНАРД НОРЫК
## 4.7.1929 - 28.9.2002



Беларускія могілкі ў Іст Брансвіку 3-га кастрычніка прынялі на вечны спачын сьв. пам. Леанарда Норыка, ведамага інжынера, сябру беларускіх арганізацыяў у ЗША.

Леанард Норык нарадзіўся ў Вераскаве на Наваградчыне. Пачатковую асьвету здабываў у беларускіх школах на Бацькаўшчыне. У часе эміграцыі акончыў польскі тэхналягічны ліцэй у французкай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949-м годзе разам з бацькамі пераехаў у ЗША ў штат Нью Джэрзі, дзе працаваў на фабрыцы шкла ў Сэйрэвіле. У 1951-м годзе ў часе Карэйскай вайны быў пакліканы ў амэрыканскае войска. Пасьля войска, паступіў у мічыганскі ўнівэрсытэт у Эн Арбор, які скончыў з тытулам інжынера мэханіка. Быў выбраны ў ганаровыя інжынерскія арганізацыі "*Tau Beta Pi*" і "*Pi Tau Sigma*". У 1961-м годзе атрымаў тытул магістра па спэцыяльнасьці інжынера мэханіка пры палітэхнічным інстытуце Рэнсілэр.

Леанард Норык пачаў сваю інжынерскую кар'еру ў 1957-м годзе ў *Прат і Вітні Эйркрафт*, штат Канэктыкут, ведамай фабрыцы матораў для самалётаў, у якой працаваў 34 гады. Выйшаў на пэнсію ў 1991-м годзе, зрабіўшы вялікую кантрыбуцыю для амэрыканскага лятунства. У 1976-м годзе ён атрымаў патэнты ў гэтай галіне.

Лёня, як яго называлі сябры, ажаніўся ў 1958-м годзе з Элеанорай (Кінусяй) Кахаҥоўскай, унучкай Эміліі Шабуня (роднай сястры братоў Івана і Антона Луцкевічаў). Яны пражылі шчасьліва ў сужэнстве 43 гады.

Лёня любіў таварыскае жыцьцё. Апрача беларускіх арганізацыяў належаў да многіх клюбаў, аб чым сьведчылі розныя атрыманыя ім узнагароды. У вольны час любіў займацца садаводствам. Дбаў заўсёды ня толькі аб сваёй сям'і, але дапамагаў у патрэбе сваім сябрам, суседзям і супрацоўнікам. Дывізам ягонага жыцьця было "чыніць людзям тое, што хацеў-бы мець для сябе". Аб гэтым сьведчыць тое, што ў мясцовае пахавальнае бюро й на памінкі прыйшло больш за сотню асобаў, у тым ліку ягоныя шэфы й супрацоўнікі з *Прат і Вітні,* сябры й суседзі. Разьвітальныя словы сказалі сын Віктар, зяць Мікалай Мултары й пляменьнік Юры Андрусышын.

У вялікім суме пакінуў ён жонку Элеанору, дачку Ніну з мужам Мікалаем Муштары, сына Віктара з жонкаю Мэры й унукамі Мэлісаю, Гэтэр і Кайлам, а таксама ў Беларусі брата Рамана з сям'ёю.

Абрад пахаваньня выканаў айцец Вячаслаў з БАПЦ у Гайланд Парку, Нью Джэрзі, а разьвітальнае слова й спачуваньне сям'і нябожчыка ад БАЗА выказаў Антон Шукелойць. Вечная памяць!

***Антон ШУКЕЛОЙЦЬ***

# СЬВ. ПАМ. ЛЮДОВІКА БУДЗЬКА-БЯЛЕНІС
## 4.09.1911 - 17.09.2002

Памерла Людвіка Будзька-Бяленіс, дачка ведамага беларускага дзеяча Эдварда Будзькі, равесьніка Янкі Купалы й Якуба Коласа, зь якімі ён супрацоўнічаў у "Нашай Ніве", але быў старэйшым за іх нашаніўцаў і належаў да старэйшых беларускіх дзеячоў. Быў ён актыўным беларусам перад 1905-м годам, ужо ў 1901-м годзе зарганізаваў беларускую калёнію ў Рызе, Латвія. Грамадзкі дзеяч і арганізатар, пашыральнік беларускай сьведамасьці, публіцыст, рэдактар-выдавец беларускай газэты "Дзяньніца" ў Петраградзе ў 1916-м годзе, а ў 1920-м "Беларускай Думкі" ў Вільні. Займаўся ён living рознымі сялянскімі й гаспадарчымі справамі, арганізаваў каапэратывы й выбіраўся на аднаго з найлепшых каапэратараў у Беларусі. У каапэратывы ён нёс беларускую кніжку і газэты - нацыянальную сьведамасьць.

Гавару тут пра Эдварда Будзьку, бацьку Людвікі зь дзьвох прычынаў: каб сказаць, што яблык ад яблыні далёка ня коціцца, а таксама, каб успомніць, што сёлета юбілей - 120 гадоў ад нараджэньня беларускага дзеяча Эдварда Будзькі.

Людвіка Будзька-Бяленіс родам з Будслава Вялейскага павету, памерла ў Чыкага 17-га верасьня 2002-га году. Нарадзілася 4-га верасьня 1911-га гаду. Людвіка, як і ейная старэйшая сястра Ірэна ды малодшы брат Часлаў сілаю абставінаў былі занураныя ў беларускім нацыянальным руху, узгадоўваліся й пасьля сталіся дзейнымі беларускімі патрыётамі. Вучылася Лювіка ў Беларускай гімназіі ў Вільні, а пасьля, як студэнтка Ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры, была сябраўкаю Беларускага Студэнцкага Саюзу. Людвіка й Ірэна з выдатным слухам і добрымі галасамі былі ўдзельнікамі беларускага студэнцкага хору ў Вільні пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы.

Сьв. пам. Людовіка была, у поўным значэньні гэтага слова, мастачкай. Усё, што выходзіла зь яе рук, зь яе ініцыятывы й творчасьці, было ў кампазыцыі, выкананьні й дэталях высакаякаснага мастацтва, надзвычай прыгожае. Па сяньня ў каталёгах музэяў Летувы захаваліся экспанаты - мастацка размаляваныя вялікодныя яйкі, якія Людовік Будзька зрабіла і падаравала Беларускаму музэю імя Івана Луцкевіча ў Втльні, які ў 1939-м годзе Сталін аддаў разам зь Вільняю Летуве, якая тыя багатыя зборы забрала ў свае музэі й кажа, што гэта здабытак летувіскай культуры.

Мастацкія вышыўкі, беларускія лялькі ды іншыя творы Людовікі Будзька-Бяленіс экспанаваліся на выставах, арганізаваных Канадыйскім музэем у Атаве, Канада, на працягу 1970-х гадоў у Беларускім павільёне Каравану Таронта, МЕНСК ды на бязьлічных выставах у Чыкага.

У беларускім ДП лягеры Ватэнштэт у Нямеччыне Людовіка Будзька працавала са скаўтамі й скаўткамі, вучыла іх правільна пяяць беларускія песьні, вучыла моладзь танцаваць беларускія танцы, рыхтавала іх да выступаў на міжнародных фэстывалях. Сама шыла танцорам нацыянальныя строі, глядзела, каб маладыя артысты ня толькі добра танцавалі, але й выглядалі беззаганна.

І з натуры Людовіка была беззаганная - сьціплая, шчырая, дзейная і творчая беларуская патрыётка. Была добрым чалавекам, які нікому зла не ўчыніў, які на нікога й благога слова не сказаў.

Вечная Табе памяць, Люня - Людовіка Будзька-Бяленіс, і вечны Табе супакой.

Выказваем шчырыя спачуваньні сястры Ірэне Будзька-Пануцэвіч і яе нашчадкам.

***Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ***



***Газэта "БЕЛАРУС"***

***надрукуе бясплатна кароткія прыватныя аб'явы некамэрцыйнага характару, зьмесьцім віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншыя абвесткі. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Згуртав-не Беларусаў у Вялікай Брытаніі | 500 | А. Дзейка | 30 |
| Ананімна | 100 | В. Зайка | 30 |
| Л. Дубовік | 100 | В. Заморскі | 30 |
| А. Лук'янчук | 100 | В. Каракулька | 30 |
| В. Едзіновіч | 60 | І. Кісель | 30 |
| М. Касьцюк | 50 | Л. Колін | 30 |
| З. і В. Кіпель | 50 | Л. Корчык | 30 |
| Б. Паук | 50 | А. Кузьміч | 30 |
| Н. Рагуля | 50 | Е. Маркоўскі | 30 |
| А. Стральцова | 50 | А. Махнюк | 30 |
| Я. Шыбут | 50 | К. і П. Міранoвіч | 30 |
| П. Алексы | 40 | Я. Навагродзкі | 30 |
| Я. Валюкевіч | 40 | Ю. Найдзюк | 30 |
| С. Шабовіч | 40 | Т. Паланевіч | 30 |
| М. Аляксандар | 30 | Н. Пратасевіч | 30 |
| М. Белямук | 30 | У. Сітнік | 30 |
| Т. Бэрд | 30 | Р. Станкевіч | 30 |
| Я. Голбін | 30 | К. Суслава | 30 |
| А. Губэрт | 30 | В. Трацьцяк | 30 |
| | | К. Верабей | 12 |

**У памяць Л. Норыка:**

Я. Кахаҥоўская .......50

**Заміж кветак на магілу Л. Норыка:**

У. Набагез ...........100

**Заміж кветак на магілу М. Яськевіч:**

ЗБВБ ...............50

**Усім шчыры дзякуй!**


БЕЛАРУС

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

***Выдае штомесячна***
***БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
***Падпіска $30 на год***
***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***

BIELARUS

*Belarusan Newspaper in the Free World*

***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***

***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***





**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org